# «Мэта адна: беларусы павінны жыць дастойна. Гэта яны заслужылі!»

**А.Р.Лукашэнка**


# Народная трыбуна

БРЭСТ

1 верасня 2001 года № 35 (552)

Абласная грамадска-палітычная газета Кошт 50 руб.


## У цэнтры ўвагі пасяджэння Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы - актуальныя пытанні эканомікі

Галоўным пытаннем парадку дня чарговага пасяджэння Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы сталі праблемы фарміравання і выканання саюзнага бюджэту. Аб гэтым, адкрываючы 29 жніўня ў Маскве пасяджэнне Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы, заявіў кіраўнік саюзнага ўрада Старшыня ўрада Расійскай Федэрацыі Міхаіл Касьянаў.

Паводле слоў Міхаіла Касьянава, сітуацыя ў бюджэтнай сферы на сённяшні дзень не можа задавальняць саюзны ўрад. Даходы і рэалізацыя сродкаў, якія выдзяляюцца з саюзнага бюджэту, выкарыстоўваюцца дрэнна.

Міхаіл Касьянаў заявіў, што на гэтым пасяджэнні Саўміна неабходна прыняць рашэнне па асноўных параметрах саюзнага бюджэту на 2002 год. Ён звярнуў увагу, што яго трэба сфарміраваць да канца гэтага года.

Важнейшым пытаннем парадку дня Міхаіл Касьянаў назваў зацвярджэнне складу сумеснай рабочай групы па распрацоўцы Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы. Пры гэтым ён падкрэсліў, што ў склад групы ўвойдуць вядомыя вучоныя і спецыялісты ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва, дэпутаты, суддзі канстытуцыйных судоў, а таксама міністры.

У парадку дня чарговага пасяджэння вялікі блок пытанняў, якія датычацца бяспекі і абараназдольнасці Саюзнай дзяржавы, у прыватнасці, праект ваеннай дактрыны. Гэты дакумент падрыхтаваны і ўнесены міністэрствамі абароны дзвюх краін. Ваенная дактрына Саюзнай дзяржавы , падкрэсліў Міхаіл Касьянаў, мае выключна абарончы характар і заснавана на Канстытуцыях дзвюх дзяржаў.

Кіраўнік расійскага ўрада падзяліўся сваім уражаннем аб выстаўцы сумесных мадэляў тэлевізараў, арганізаванай у фае Дома ўрада, дзе праходзіць пасяджэнне. Гэта тэхніка распрацавана ў рамках праграмы «Саюзны тэлевізар». Міхаіл Касьянаў падкрэсліў, што кааперацыя паміж прадпрыемствамі нашых дзяржаў дае рэальныя вынікі. Пры гэтым ён заявіў, што сумесныя ўзоры па якасці не адрозніваюцца ад тэлевізараў, якія збіраюцца з выкарыстаннем імпартных камплектуючых.

Актывізаваць работу па выкананню дасягнутых раней дамоўленасцяў і рашэнняў органаў Саюзнай дзяржавы заклікаў удзельнікаў пасяджэння прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын.

## Дарагія педагогі, навучэнцы і бацькі!

***Сардэчна віншуем вас з пачаткам навучальнага года і Днём ведаў!***

***1 верасня 2001 года ў Брэсцкай вобласці за парты сядуць 232 тысячы школьнікаў, 15 тысяч студэнтаў увойдуць у вучэбныя аўдыторыі.***

***Адчыняцца дзверы ў прыстанак ведаў для 18 тысяч шасцігодак.***

***Адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца адным з прыярытэтных накірункаў дзяржаўнай палітыкі. Дзякуючы пастаяннай увазе Прэзідэнта, кіраўніцтва краіны, якое ў сённяшні няпросты пераходны час не страціла традыцый і заваёў мінулага, упэўнена ўдасканальваецца ў адпаведнасці з новымі задачамі.***

***Абласны выканаўчы камітэт і абласны Савет дэпутатаў выказваюць сваю вялікую павагу і ўдзячнасць настаўнікам, усім работнікам на ніве адукацыі вобласці за высакародную працу, за грамадзянскую адказнасць і самаадданасць душы.***

***Брэстчына мае поўнае права ганарыцца настаўнікамі-ветэранамі, якія ўнеслі свой уклад у стварэнне айчыннай сістэмы адукацыі, якая адпавядала лепшым сусветным стандартам! Яны стаялі ля вытокаў унушальных дасягненняў вобласці ў сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці.***

***Усім, хто нас вучыў, выводзіў нас на шырокую дарогу навуковых ведаў, настаўляў і рыхтаваў да жыцця, наша вялікая падзяка!***

***Дзень ведаў - свята сям'і, усяго народа. Упэўнены, што і надалей саюз школы, сям'і і грамадскасці будзе моцным і дзейсным. Сумеснымі намаганнямі пасеянае разумнае і добрае дасць багатыя ўзыходы ў тым, што мы плануем і намячаем на заўтрашні дзень.***

***Няхай новы навучальны год - першы ў трэцім тысячагоддзі - стане для вобласці годам прыкметных творчых поспехаў, далейшага ўмацавання і развіцця сістэмы адукацыі. У гарадах і раёнах Брэстчыны мясцовая ўлада для гэтага будзе рабіць усё магчымае і неабходнае.***

***Са святам!***

***Жадаем вам моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у нарошчванні скарбніцы ведаў - для ўсіх, хто іх дае і хто імі авалодвае.***

**Абласны выканаўчы камітэт. Абласны Савет дэпутатаў.**

## Паважаныя жыхары Брэстчыны!

***Прыміце самыя шчырыя віншаванні з нагоды Дня беларускага пісьменства.***

***Свята маладое, адзначаецца толькі восьмы год, але яго карані ўваходзяць у сівыя глыбіні стагоддзяў. Ад часоў Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага кніга, асветніцтва займаюць у жыцці нашых людзей пачэснае месца.***

***Слова Скарыны, яго паслядоўнікаў было, ёсць і застаецца тым векавечным сонцам над нівай беларускага пісьменства, без якога немагчыма ўявіць духоўнае жыццё ніводнага пакалення.***

***Нястомная праца творцы, як і хлебароба ў полі, рабочага ля станка, заўсёды прыносіць радасць людзям. Менавіта ў гэтым бачыцца глыбокі сэнс вераснёўскага свята, у дзень якога падсумоўваюцца нашы духоўныя здабыткі, акрэсліваюцца новыя планы на будучае.***

***А нам, берасцейцам, ёсць чым ганарыцца: гэта і зямля, абароненая продкамі ў суровых змаганнях з чужаземцамі, і яе руплівыя людзі, што пасля цяжкіх выпрабаванняў здабывалі нялёгкай працай штодзённы хлеб, і таленавітыя творцы, жыццядзейная моц якіх узвышала і ўзвышае цяпер нашы светлыя мары, думкі і пачуцці.***

***Жадаем вам творчага плёну ў працы, здароўя і шчасця.***

**Абласны выканаўчы камітэт. Абласны Савет дэпутатаў.**

## З 1 па 30 верасня студэнты ездзяць бясплатна

**Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, з 1 па 30 верасня гэтага года студэнтам вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў дзённай формы навучання прадастаўлена права бясплатнага праезду на аўтобусах рэгулярных прыгарадных і міжгародніх маршрутаў, на прыгарадных цягніках, у агульных і плацкартных вагонах цягнікоў унутрырэспубліканскіх зносін па пятніцах, суботах, нядзелях і панядзелках.**

Як адзначаецца ў афіцыйным каментарыі да ўказа, мэта яго прыняцця - «стварэнне ўмоў для аказання дапамогі ва ўборцы ўраджаю 2001 года», паколькі многія студэнты і навучэнцы, перш за ўсё з сельскай мясцовасці, «будуць сумяшчаць вучобу з аказаннем па выхадных днях дапамогі бацькам і сваякам ва ўборцы ўраджаю і правядзенні іншых сельскагаспадарчых работ».



## Зарплата ў Беларусі павышаецца на фоне зніжэння інфляцыі

Істотны зрух зрабіўся ў эканоміцы Беларусі за семь месяцаў 2001 года. У сферы матэрыяльнаяй вытворчасці сярэдняя зарплата склала ў эквіваленце 104 долары. Пры гэтым рост зарплаты ўпершыню за некалькі гадоў ажыццяўляецца ва ўмовах зніжэння інфляцыі і стабілізацыі беларускага рубля. Поўнасцю выплачаны адпускныя настаўнікам, няма праблем з выплатай пенсій і дапамог. Эканоміка пачала працаваць збалансавана. І гэты баланс трэба ўтрымаць. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 28 жніўня пры заслухоўванні справаздачы ўрада аб выкананні яго даручэнняў, якія датычацца рэалізацыі параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2001 год.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў шэраг станоўчых тэндэнцый у развіцці важнейшых сфер народнай гаспадаркі. Скарачаюцца складскія запасы прадукцыі. А гэта значыць, што ў прадпрыемстваў з'яўляюцца грошы і, адпаведна, павялічваюцца абаротныя сродкі. За тры тыдні жніўня інфляцыя знізілася да 0,8 працэнта. Адзначаны прырост укладаў у банках, папаўняюцца валютныя запасы. Забяспечаны рост аб'ёмаў вытворчасці ў многіх асноўных галінах эканомікі. Павялічваецца экспарт. Паводле слоў Прэзідэнта, створаны ўсе ўмовы для нармальнай работы. Цяпер важна замацаваць гэтыя вынікі, атрымаць задзел у эканоміцы. Тады з'явяцца рэальныя сацыяльныя гарантыі. А курс на сацыяльна арыентаванае развіццё эканомікі мы будзем прадаўжаць, сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Пры гэтым ён падкрэсліў, што галоўная задача заключаецца ў тым, каб больш энергічна і маштабна павышаць жыццёвы ўзровень людзей. І зроблена гэта будзе за кошт росту вытворчасці і яе якасці, укаранення навукаёмістых тэхналогій, павышэння рынкаў збыту прадукцыі, вядзення эфектыўнага гаспадарання.

Прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын, які выступіў са справаздачай, адзначыў, што да 1 кастрычніка 2001 года прагнозныя паказчыкі ў эканоміцы будуць выкананы. А да канца года адстаючыя галіны - канцэрны «Беллегпрам», «Беллеспаперапрам», транспартная сфера - павінны выйсці на зададзеныя аб'ёмы вытворчасці. Паводле слоў прэм'ер-міністра, цяпер ідзе падрыхтоўка да зімы, няма запазычанасцяў па аплаце за знешнія энергарэсурсы. У ліку надзённых праблем кіраўнік урада назваў недастаткова актыўную работу гандлю, які цяпер, напярэдадні новага навучальнага года, павінен прыцягваць пакупніка, выкарыстоўваць усе свае рэзервы для павялічэння рознічнага тавараабароту.

Са справаздачай перад кіраўніком дзяржавы выступілі першы віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў, намеснікі прэм'ер-міністра, якія курыруюць пэўныя сферы народнай гаспадаркі, страшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч.

Як адзначыў Прэзідэнт, у рабоце ўрада станоўчую ролю адыграла мабілізацыя сіл перад прэзідэнцкімі выбарамі, якія для ўсіх нас з'яўляюцца экзаменам. Жорсткасць прымаемых рашэнняў, адказнасць, дысцыпліна, крокі насустрач праблемам людзей - усё гэта дало вынік, лічыць кіраўнік дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што ў выпадку перамогі на выбарах яго сацыяльна-эканамічная палітыка не зменіцца. Адказнасць і дысцыпліна будуць узмацняцца. Разам з тым, адзначыў Прэзідэнт, у будучым урадзе ён мае намер некалькі «разняволіць» міністраў. Яны павінны быць цэнтральнымі фігурамі ў Савеце Міністраў. Іх аўтарытэт павінен павысіцца. Пры гэтым кіраўнік урада падкрэсліў, што ў яго няма прэтэнзій да членаў урада па іх прафесійных або нейкіх іншых якасцях.

*Саюз: Беларусь - Расія*

## Міжнародны эканамічны форум

***«Новыя эфектыўныя механізмы эканамічнага ўзаемадзеяння Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь», мажліва, нязменна прапішацца ў Брэсце.***

Ва ўсякім разе, менавіта з такой прапановай - аб'явіць горад над Бугам пастаянным месцам для канструктыўнага дыялогу ўсіх, хто зацікаўлены ў паглыбленні эканамічнага і дзелавога супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй - звярнуліся ўдзельнікі форуму на адрас Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі 28 жніўня 2001 года.

А гэта - прадстаўнікі адміністрацый суб'ектаў Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь, органаў кіравання прамыслова-гаспадарчымі комплексамі абедзвюх краін, прадпрыемстваў і арганізацый, навуковых інстытутаў і вышэйшых навучальных устаноў, грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый, пасольстваў замежных краін, што акрэдытаваны ў Расіі і Беларусі.

Арганізатарамі форуму выступілі Брэсцкі аблвыканкам, Адміністрацыя СЭЗ «Брэст» і расійскі Міжнародны форум «Сусветны вопыт і эканоміка Расіі».

Яго ўдзельнікаў цёпла вітаў старшыня аблвыканкама Васіль Далгалёў. З пажаданнямі плённай работы па абмеркаванню стану, праблем і перспектыў эканамічнага развіцця Саюзнай дзяржавы звярнуліся кіраўнікі расійскага парламента Ягор Строеў і Генадзь Селязнёў, прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ярмошын (іх прывітальныя лісты былі зачытаны).

Адзначалася, што эканоміка Беларусі і Расіі развіваецца ва ўмовах, калі наметзіліся тэндэнцыі да ажыўлення вытворчых сіл краін і ўзнаўлення кааперацыйных сувязяў, паступова нармалізуецца стан у фінансавых і крэдытных сферах. Узрастае попыт на вырабляемыя ў нашых дзяржавах тавары, паслугі. Рэалізоўваюцца важныя структурныя пераўтварэнні ў эканоміцы, удасканальваюцца прававыя, эканамічныя і адміністрацыйныя механізмы, што стымулююць прадпрымальніцкую і інавацыйную дзейнасць.

Выступленні ўдзельнікаў форуму на пленарным пасяджэнні, у прыватнасці, намесніка міністра Міністэрства прамысловасці, навукі і тэхналогій Расійскай Федэрацыі Аляксандра Піваварава, намеснікаў кіраўнікоў Адміністрацый Яраслаўскай, Тульскай і Смаленскай абласцей Аляксандра Фёдарава, Аляксандра Лунёва, Алега Малініна, прадстаўнікоў беларускіх Цэнтрабанка і Міністэрства замежных спраў, кіраўніка Адміністрацыі СЭЗ «Брэст» Мікалая Крывецкага і іншых, падводзілі да бясспрэчнай высновы: эканамічны саюз Беларусі і Расіі мае агромністы навукова-вытворчы патэнцыял, які здольны падтрымаць развіццё сваіх краін і рост дабрабыту насельніцтва ў пачатку трэцяга тысячагоддзя. Аптымістычныя ацэнкі абапіраюцца на шэраг аб'ектыўных фактараў: вялікая тэрыторыя і ёмісты ўнутраны рынак, высокі ўзровень адукаванасці насельніцтва і значная колькасць кваліфікаваных кадраў, багатыя нацыянальныя традыцыі, накіраваныя на калектыўную стваральную працу, забяспечанасць Саюзнай дзяржавы сыравінай, энерганосьбітамі і г.д.

Разам з тым, падкрэслівалася на форуме, сумеснае эканамічнае развіццё Беларусі і Расіі стрымліваецца шэрагам сур'ёзных праблем. Да іх адносяцца нявыразвітасць нарматыўна-прававой базы функцыянавання сумеснай фінансава-эканамічнай інфраструктуры і недастаткова высокі інвестыцыйны капітал, неабароненасць правоў уласнасці і адсутнасць гарантый выканання заключаных кантрактаў, слабы кантроль за цэнамі на энерганосьбіты і сыравіну, што ўстанаўліваюцца натуральнымі манапалістамі, не рэальна высокія працэнтныя стаўкі па прыцягваемых крэдытах, нядобрасумленная канкурэнцыя замежных партнёраў на ўнутраным рынку. Адсутнічае і ўзгоднены падыход да вызначэння рэальных тэрмінаў выхаду на адзіны рэжым работы сумесных гаспадарча-эканамічных сістэм...

Удзельнікі форуму падтрымалі палітычны курс на збліжэнне беларускага і рускага народаў, стварэнне Саюзнай дзяржавы. А таксама палічылі мэтазгодным у святле новых задач, якія стаяць перад эканамічнай, прамысловай, фінансавай і навуковай грамадскасцю Беларусі і Расіі, прасіць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнку і Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна ўключыць прапановы ўдзельнікаў форуму ў асобныя Прэзідэнцкія праграмы па падтрымцы і развіццю эканомікі Саюзнай дзяржавы і забяспечыць іх выкананне праз федэральныя і рэгіянальныя органы выканаўчай улады.

У час форуму быў падпісаны шэраг пагадненняў.

## Адбылася тэлефонная размова Аляксандра Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным

**По шляху на Гожскі палігон адбылася тэлефонная размова Аляксандра Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным.**

Як паведамілі з прэс-службы кіраўніка дзяржавы, Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі абмеркавалі пытанні двухбаковых адносінаў. Аляксандр Лукашэнка праінфармаваў Уладзіміра Пуціна аб сітуацыі ў рэспубліцы і аб ходзе комплексных аператыўна-тактычных вучэнняў «Нёман-2001». Уладзімір Пуцін павіншаваў Аляксандра Лукашэнку з днём нараджэння.

## Палітычная правакацыя

**Палітычнай правакацыяй напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў назваў Аляксандр Лукашэнка матэрыялы на расійскіх тэлеканалах і паведамленні ў айчыннай апазіцыйнай прэсе аб мяркуемых нібыта месцах пахаванняў зніклых вядомых людзей у Беларусі. Аб гэтым ён заявіў журналістам пры наведванні 28 жніўня закрытага акцыянернага прадпрыемства «Белаўтагаз».**

Адказваючы на пытанне, як Прэзідэнт сам асабіста ацэньвае гэтую сітуацыю, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што «апошняя кропка над «і» будзе пастаўлена ў гэтай гісторыі толькі тады, калі гэтыя людзі будуць знойдзены». А такія відэаматэрыялы ён расцэньвае як «брудны выпад» не толькі ў свой адрас. Яны прыносяць боль і пакуты сем'ям прапаўшых, падкрэсліў Прэзідэнт.

Разам з тым, Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу, што сам сюжэт аб зніклых людзях з'яўляецца заўсёды напярэдадні важных палітычных падзей. Кіраўнік дзяржавы выступіў супраць такіх «брудных» тэхналогій і заклікаў журналістаў дружалюбнай да нашай краіны Расіі аб'ектыўна адносіцца да сітуацыі ў Беларусі.

## Супраць паралельнага падліку

Шарлатанствам назвала старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына спробу арганізаваць паралельны падлік галасоў на прэзідэнцкіх выбарах. Гэта не рэгламентавана законам і не прынята ў шырокай міжнароднай практыцы, адзначыла яна на сустрэчы з журналістамі ў нацыянальным прэс-цэнтры.

Пры гэтым кіраўнік Цэнтрвыбаркама падкрэсліла, што сумняваецца ў аб'ектыўнасці так званых незалежных наглядальнікаў, паколькі многія з іх працуюць у камандзе пэўнага кандыдата. Лідзія Ярмошына запэўніла, што Цэнтрвыбаркам забяспечыць празрыстасць выбараў і не дапусціць іх фальсіфікацыі.

# З наваселлем, школа!

*1 верасня - Дзень ведаў*





***Пра настаўніка геаграфіі Ланской СШ Маларыцкага раёна Вадзіма Шпетнага (на здымку злева) «НТ» упершыню напісала ў канцы красавіка г.г., калі ён стаў пераможцам абласнога прафесійнага конкурсу «Настаўнік года-2001».***

***А нядаўна гэты няўрымслівы педагог зноў парадаваў сваіх калег і землякоў новым поспехам. Ён стаў і «Настаўнікам года-2001» у маштабах усёй Рэспублікі Беларусь.***

***Шчыра віншуем, Вадзім Паўлавіч!***

* * *



Выдатны падарунак напярэдадні новага навучальнага года атрымалі вучні і настаўнікі Папінскай сярэдняй школы Драгічынскага раёна. У вёсцы Новая Папіна - цэнтры калгаса «Світанак» і Папінскага сельскага Савета - з адзнакай «выдатна» здадзены ў эксплуатацыю новы сучасны шматпавярховы будынак школы, разлічаны на 264 вучнёўскія месцы.

Дарэчы, будынак узведзены па арыгінальнаму архітэктурнаму праекту, які, бадай, не мае аналагаў не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы.

Тут створаны выдатныя ўмовы для навучання школьнікаў і работы педагагічнага калектыву. Усе класы маюць новае абсталяванне, мэблю, ёсць камп'ютэрны кабінет. У прывітальным слове старшыня абласнога Савета дэпутатаў Леанід Лемяшэўскі і старшыня райвыканкама Сяргей Мамацюк, якія бралі ўдзел з нагоды падзеі, выказалі надзею, што з яе сцен выйдуць нямала высокаадукаваных юнакоў і дзяўчат, якія будуць плённа працаваць на карысць сваёй Айчыны.

**Сцяпан СУПРУН.**



**На здымках:** хлеб-соль - старшыні абласнога Савета дэпутатаў Леаніду Лемяшэўскаму; начальнік будаўнічага ўпраўлення № 2 Мікалай Мемех (злева) перадае сімвалічны ключ ад школы яе дырэктару Аляксандру Тынковічу; першы раз у першы клас новай школы прыйшла за ведамі Марына Гачыкян; новы будынак школы.





Фота Сцяпана СУПРУНА і Сяргея СНАПКО.

## Надвор'е

*Сёлета кліматычная восень, здаецца, цалкам супадае з каляндарнай. Адчувальнае пахаладанне завітае на Брэстчыну ўжо з першага дня верасня. Надвор'е на працягу ўсяго наступнага тыдня будзе няўстойлівае. Дажджы, падчас зацяжныя, магчымы амаль штодня. Апранацца цяплей вымусіць і парывісты паўночны вецер. Тэмпература паветра днём - ад 13 да 17 градусаў цяпла, уначы - 5-10 градусаў вышэй за нуль. Пры працяглых праясненнях магчымы замаразкі да -2°С.*

*Першы восеньскі месяц чакаецца халаднейшым за норму. І даволі дажджлівым. Цяплей будзе яго другая палова.*

